У нумары: Выйграны час | Дамян застаецца Дамянам | Трагедыя пад Сярэбранай Гарой

# Ніва

ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 9 (470) | ГОД X | 28 ЛЮТАГА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.

Сяргей Грахоўскі



* * *

Будзь музаю маёй,
Маім натхненнем,
І ласкаю,
І казкаю жывой,
Маёй надзеяй і маім сумленнем
І толькі будзь заўжды
Сама сабой,

Няўмольнаю,
Спагадлівай, вясёлай,
Маўкліваю і надта гаваркой,
У дождж іскрыся
Чыстаю вясёлкай,
У спёку стань
Крынічнаю ракой,

Прымі мяне
У залатое лона,
Ад смагі дай
Гаючую ваду,
І я з тваіго
Чароўнага палону
Ніколі сам нікуды
Не пайду.

Твайго святла
Ужо ніштo не засціць,
Ты для мяне,
Як зорка на зямлі,
Таму з табою
Ў горы і ў няшчасці
Заўсёды мы
Шчаслівымі былі.

Ты не даеш
Сабе і мне спакою,
(Жывым супрацьпаказаны
Спакой).
Свяці вясёлкай,
Будзь жывой ракою,
Надзеяю і музаю
Маёй.



## БЕЛАСТОЧЧЫНА Ў ЛЮСТЭРКУ




Язэп Сяржан быў звычайным хлебаробам. Жыў у Гарадку і ў ва сне нават не прадчуваў, што калі-небудзь прыдзецца яму стаць сапраўдным дырэктарам сапраўднай суконнай фабрыкі.

Быў векапомны 1944 год. Зямля яшчэ дыхала крывёю. У Гарадку неяк самародна ўстанаўлялася новая ўлада. Бралі яе ў рукі члены Польскай рабочай партыі. Сярод іх быў **Язэп Сяржан**. Таварышы накіравалі яго ў суседняе Міхалова ўстанаўляць прадукцыю на суконнай фабрыцы. Гэтае мястэчка ўзнікла і разраслося дзякуючы менавіта суконнай прамысловасці. Гітлераўцы адступаючы падмінавалі і ўзарвалі амаль усе міхалоўскія прадпрыемствы. Шчасліва, часткова ацалела фабрыка Фрэймарка. Вось тут па загаду партыі пачаў гаспадарыць Язэп Сяржан — звычайны хлебароб з Гарадка, што ў Беластоцкім павеце.

Нікадзім Шэйнога ўспамінае:

— Да вайны я працаваў пры паравых машынах. Гітлераўцы мяне арыштавалі і з Беластоцкай турмы вывезлі ў Прусію. Дамоў я вярнуўся летам 1945 года, пасля дэмабілізацыі з Чырвонай Арміі. Хацеў адкрыць цырульню, бо трэба вам ведаць, што я таксама знаток у гэтай прафесіі. Пазычыў ужо вялікае люстэрка і яшчэ шукаў адпаведнага крэсла. І вось тады прыходзіць да мяне адзін знаёмы і кажа: «Ты, Нікадзім, пакінь гэтую справу і хадзі да нас у фабрыку. Нам патрэбны спецыялісты. Цябе таварыш Сяржан просіць». Пра Сяржана я ўжо чуў. Усё Міхалова і наваколле толькі і пра яго талкавала. Што міліцыю сарганізаваў, што гміну залажыў, што фабрыку рамантуе. Не хацелася мне ісці, бо цырульнікам больш бы зарабіў. Але паслухаў, пайшоў і так ужо па сённяшні дзень застаўся. З развалін старых фабрык даставалі мы абгарэлыя машыны і паасоб-

(Працяг на стар. 4)

## НАШЫ ІНТЭРВ'Ю



# АКНО НА ДЗЕНЬ УЧАРАШНІ

Музей рэвалюцыйнага руху ў Беластоку належыць да малады х навуковых устаноў ваяводства. Нядаўна скончыў першы год існавання. І гэты год паказаў, што ўстанова дае многа карысці.

Дырэктарам музея ад пачатку з'яўляецца спецыяліст — гісторык КРЫСТЫНА ШЧУДЛОВАЯ. Сёння адказвае на нашыя пытанні.

**— Музеі рэвалюцыйнага руху — зусім новыя тыпы музеяў. У чым іх спецыфіка?**

— Музеяў рэвалюцыйнага руху маем, акрамя нашага, яшчэ ў Варшаве, Лодзі, Познані, Жырардове. Такія музеі паўсталі як вынік запатрабаванняў сённяшняга дня. Іх база — рэвалюцыйная барацьба нашага народа за свабоду і справядлівасць. Іх заданне — збіраць і апрацоўваць дакументы гісторыі найбольш новай гісторыі, якая часта яшчэ жыве ў жывых людзях — непасрэдных творцаў гэтай жа гісторыі.

**— Які перыяд закрэслены вашымі зацікаўленнямі?**

— Ад 70-х гадоў XIX стагоддзя да 1948 года ў выпадку нашага музея. Гэта час ад зачаткаў прамысловасці ў Беластоку да заваявання поўнай улады народам.

**— Музей можа многа зрабіць у накрэсленай тэме.**

— Тым больш, што Беласток не мае вышэйшай навуковай установы гуманістычнага тыпу. Такую ролю мы павінны выконваць. Яднаем людзей зацікаўленых гісторыяй, супрацоўнічаем з Беластоцкім навуковым таварыствам. Наш архіў ужо можа быць крыніцай веды, а будзе яшчэ большай.

**— Адкуль і як гуртуеце матэрыялы аб Беласточчыне?**

— Рознымі спосабамі, і дзе толькі можна стараемся здабываць дакументы, фотаздымкі, успаміны. Яны раскіданы часта ў розных архівах, у розных людзей. Сувязі з Мінскам, Гроднам у БССР, дзе мы ўжо знайшлі і атрымалі фотакопіі цікавых дакументаў аб Беластоцкім рэвалюцыйным руху канца XIX стаг. — Вялікім Пралетарыяце і СДКПіЛ-ю.

**— Людзі жывыя — сведкі і ўдзельнікі забастовак і анты-**

(Працяг на стар. 5)



Старыя вароты Белавежы.



# ПАРАЖЭННІ БОНА

Запрашэнне Старшыні Савета Дзяржавы ГДР Вальтэра Ульбрыхта ў Аб'яднаную Арабскую Рэспубліку выклікала ў Заходняй Германіі настроі, блізкія да тых, якія бываюць у таго, хто пацерпіць паражэнне. З пункту гледжання ФРГ, якая хоча выступаць ад імя ўсёй Германіі, афіцыяльны візіт Вальтэра Ульбрыхта ў Каір сапраўды панёс паражэнне праслаўленай дактрыне Гальштайна. Прыпамінаю, што гэта дактрына, прынятая на пачатку 50-ых гадоў, г. зн. у перыяд узмацнення халоднай вайны, павінна была бараніць бонскую дзяржаву ад дапушчэння Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі на міжнародную арэну. У перыяд халоднай вайны і нараджаючагася яшчэ антыкаланіяльнага руху ў краінах Афрыкі і Азіі гэтая дактрына спаўняе сваю ролю. Аднак сёння халодная вайна адышла ў мінулае. На свеце ўзнікла некалькі дзесяткаў дзяржаў, якія вызваліліся з-пад гегемоніі заходніх краін, а паміж Усходам і Захадам наступіла вялікае аслабленне напружання. Адначасова Германская Дэмакратычная Рэспубліка ўзмоцнілася як самастойная высакаразвітая дзяржава і пачала адыгрываць значную ролю ў міжнародных адносінах. У такіх умовах дактрына Гальштайна стала не толькі тормазам заходнегерманскай палітыкі, але і перашкодай на шляху да далейшага аслаблення міжнароднага напружання.

Некалькі год назад, калі Югаславія навязала дыпламатычныя адносіны з ГДР, Заходняя Гарманія адклікала свайго пасла з Белграда. У Боне тады думалі, што гэта ўстрымае ўсе іншыя краіны ад навязання адносін з ГДР. Аднак гэтыя іх надзеі не апраўдаліся. Сёння ў большасці краін Афрыкі і Азіі ГДР мае свае гандлёвае прадстаўніцтва і кансулаты. З цэлым шэрагам краін ГДР будзе мець дыпламатычныя адносіны ў хуткім часе. У многіх выпадках краіны не навязваюць дыпламатычных адносін з ГДР толькі таму, што не могуць абысціся без гаспадарчай дапамогі Заходняй Германіі, якая шантажуе гэтыя краіны тым, што перастане аказваць дапамогу.

Аднак шантаж не памог у выпадку Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі. Зрэшты, у Каіры маюць да бонскага ўрада прэтэнзіі з-за таго, што той аказвае ваенную дапамогу Ізраілю. На думку прэзідэнта Насэра, гэтая дапамога накіравана супраць арабскіх краін і пагражае міру на Блізкім Усходзе. Незадаволенасць Насэра ваеннай дапамогай Ізраілю не з'явілася прычынай сяброўскіх жэстаў у адносінах да ГДР. ААР, запрашаючы Вальтэра Ульбрыхта, дала доказ свайго палітычнага аб'ектывізму, доказ разумення фактаў, аб чым заявіў у адным са сваіх інтэрв'ю прэзідэнт Насэр. Што датычыць адносін Бона з Ізраілем, з аднаго боку, і Егіпетам — з другога, дык Бон аказаўся тут у падвойным клопаце. Продаж зброі для Ізраіля быў цаной, якую заплаціла ФРГ за тое, каб Ізраіль не выклікаў міністра Глобке на сведка ў працэсе Айхмана і за прытупленне вастрыя крытыкі ў адрас бонскага ўрада на гэтым працэсе. Гэтыя факты выйшлі на яву тады, калі ААР запатрабавала спыніць гэтую дапамогу.

Аднак ФРГ не можа перастаць аказваць дапамогу Ізраілю, бо баіцца, што выявіцца шмат палітычных супадзенняў у дзейнасці цяперашняга ўрада з урадам Гітлера. Гэта грозіць бонскаму ўраду стратай не толькі Каіра, але і другіх арабскіх краін — гаспадарчых партнёраў, прызнаючых дактрыну Гальштайна.

«Neue Rhein-Ruhr Zeitung» ацэньвае сённяшняе становішча ў Боне як паражэнне «на ўсіх франтах». Гэтае паражэнне павялічваецца яшчэ стрыманымі становішчамі з боку Вашынгтона і Лондана, не гаворачы ўжо аб Парыжы. Ад гэтых сталіц бонскі ўрад не атрымаў ніякай маральнай падтрымкі. На заканчэнне прывяду ўрывак з артыкула ў газеце «Frankfurter Rundschau»: «Перажываем пачатак канца такой нямецкай і наогул заграннічнай палітыкі, якую генерал дэ Голь вельмі слушна назваў нерэальнымі марамі. Усе, хто ў апошнія гады прадказвалі няслаўны канец гэтай палітыкі, мелі рацыю».

Поўнасцю згаджаемся з гэтым.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**



Генерал Тэйлар распасцірае крылы.




### У ДОЎГІЯ ВЕЧАРЫ

У Лазнях на Сакольшчыне існуе дзве арганізацыі БГКТ і ЗМВ.

У доўгія вечары моладзь выкарыстоўвае час у двух напрамках. Дзяўчаты са старэйшымі жанчынамі з'яўляюцца ўдзельнікамі вечаровага курсу крою і шыцця. У аўторак, чацвер і суботу адбываюцца клубныя заняткі ў мясцовай святліцы. Кіраўнічка святліцы Апалонія Супруновіч апрацоўвае з моладдзю польскую камедыю «Нажэчонэ». Да гэтага часу моладзь таксама не спала. Пры дапамозе кіраўніка школы тав. Чабана і вялікай ахвярнасці члена ГП БГКТ Яўгеня Врублеўскага, апрацавалі праграму да сцэнічнага выступлення. На праграму скаліся вершы і дзве п'есы: «Дзесяць гектараў» і «Боты». Моладзь выступала ўжо ў сваёй вёсцы. Амбітным імкненнем аматарскага гуртка БГКТ у Лазнях з'яўляецца думка аб першым месцы ў павятовых элімінацыях беларускіх гурткоў павета, якія адбудуцца ў ІІ квартале 65 года.

**С. Крышэнь**
Саколка

### ВЕЧАР У КЛУБЕ-КАВЯРНІ «РУХ»

Вечарам 7-га лютага ў Моры быў незвычайны рух на вуліцы. Людзі ішлі ў клуб-кавярню. Там у восем гадзін вечара мела адбыцца сустрэча з вядомымі беларускімі пісьменнікамі ў Польшчы. На спатканне з чытачамі прыехаў: Віктар Швед, Яша Бурш і Мікола Лобач. На гэтым вечары многа было радасці Усім спадабаліся вершы прачытаныя паэтамі і апавяданне Міколы Лобача. Маране вельмі рады, што іх зямляк Віктар Швед піша такія прыгожыя вершы. Нашы паэты Віктар Швед і Яша Бурш мелі яшчэ аўтарскія сустрэчы ў Старым Корніне, Альхоўцы і Масеве.

**Зямляк**
вёска Мора

## НАША АКЦЫЯ

**КНІГІ ДЛЯ ДОМА КУЛЬТУРЫ ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА Ў ГАРАДКУ**

Падарунак **М. Хв. Плавінскага** з Віцебска:
«Беларускія народныя песні (запіс Р. Шырмы) І і ІІ т.; Л. І. Якуніна — «Слуцкія паясы»; Янка Купала — «Паэмы».

# Свінні і грошы

У Беластоцкім павеце знаходзіцца вёска Казімірава. Славіцца яна ў наваколлі гадоўляй высокапляменных свіней.

Усё гэта пачалося 4 гады таму назад. Мала сялян Міхалоўскай грамады праяўляла ахвоту заняцца гэтага роду гадоўляй. Агентам ад кантрактацыі ўдалося нагаварыць некалькі гаспадароў з багатага Казімірава. Аказалася, што за адну высокапляменную кантрактаваную штуку можна ўзяць да 5-ці тысяч злотых. Прыклад быў вельмі заразлівы. Цяпер найбольш свіней рохкае ў хлявах: Уладзіслава Тэкіна, Рышарда Маркоўскага, Яна Ляскоўскага, Уладзіслава Шатыловіча і Антона Гансоўскага, а гавораць, што Вацлаў Зрайкоўскі ў мінулым годзе адвёз на базу аж 36 штук лычатай жывёліны.

(вр)



Крэпасць Шпіцберг.




# ТРАГЕДЫЯ ПАД СЯРЭБРАНАЙ ГАРОЙ

Сярэбраная Гара — невялікі прамысловы пасёлак у Замбкавіцкім павеце, Вроцлаўскага ваяводства. Назва пасёлка выводзіцца ад таго, што тут яшчэ ў сярэдневякоўі дабывалі серабро і другія каштоўныя металы. Але не гэты факт нас цікавіць.

Пад канец XVIII стагоддзя Фрыдэрык Вялікі ў наваколлі Сярэбранай Гары загадаў пабудаваць цэлую сістэму ваенных крэпасцей. Густая сетка калідораў былой шахты серабра натуральным спосабам спалучала падзямеллі паасобных фортаў.

У час апошняй вайны гэтыя асаблівыя будоўлі гітлераўцы выкарысталі па-свойму. Дзеля якіх мэт — пакуль што невядома. Цемра падзямелляў Сярэбранай Гары прыкрывае страшэнную тайну трагічнай смерці каля дзвюх тысяч ваеннапалонных савецкіх, англічан і палякаў.

Як гэта сталася?

У Сярэбраную Гару штораз прыязджалі транспарты з ваеннапалоннымі розных нацыянальнасцей. Па ліку транспартаў можна судзіць, што гітлераўцы замкнулі ў крэпасці каля 600 англічан, многа больш савецкіх палонных і шматлікую колькасць палякаў.

Ваеннапалонныя былі аддзелены ад свету не толькі тоўстымі мурамі крэпасці, але яшчэ ў дадатку патройнай загарожай з калючага дроту. Хто сярод мясцовых жыхароў набліжаўся да агарожы, быў растрэльваны без папярэджання.

Невядома тады, якія пакуты цярпелі ваеннапалонныя замкнутыя ў крэпасці Шпіцберг (значыць: горная вяршына, так панямецку называлася гэтая крэпасць). Вядома толькі, што ніхто ніколі іх не вывозіў з крэпасці. Транспарты ішлі толькі ў адзін бок — за вароты крэпасці. Назад вярталіся без людзей. І так было аж да асвабаджэння. Аднак савецкія салдаты не знайшлі ў гэтай своеасаблівай турме аніводнага ваеннапалоннага. **Усе загінулі недзе без следу.** Вядома, аднак, што былі тут амаль да гітлераўскай капітуляцыі. Як сляды прысутнасці ваеннапалонных і іх ахраннікаў у адным з фортаў (Гохенштэйн — высокі камень) засталіся горбы медзі, бронзы і мосенжу, а таксама многа кансервных апаковак, пустых фляшак і астаткі кніжак. Значыць, ваеннапалонныя дабывалі медзяную і, мабыць, свінцовую руды ды пераўтваралі іх на металы неабходныя для вырабу зброі, або прадукавалі зброю.

Дзе яны прапалі? Вывезлі іх куды-небудзь? Тады хаця б некалькі чалавек перажыло ўсе нягоды і на працягу дваццаці год неяк адклікнуліся б, сказалі б свету праўду. Што тады сталася?

**Так, трэба папірыцца з гэтай страшэннай думкай: усіх ваеннапалонных, якія прабывалі ў крэпасці пад Сярэбранай Гарой, гітлераўцы замардавалі на месцы.** Найпраўдападобна, закапалі іх жыўцом, узрываючы адзін або некалькі падзямельных калідораў былой шахты.

Каб высніць тайну трагедыі, якая разыгралася пад Сярэбранай Гарой 20 год таму назад, **Галоўная Камісія па даследванні гітлераўскіх злачынстваў** накіравала туды спецыяльную экспедыцыю. Экспедыцыя сустрэлася з вялікімі цяжкасцямі. На кожным кроку чакала няведаная небяспека. Многія калідоры або раптам канчаліся абрывам, або вялі ў тупік. Тайна страшэннай смерці амаль дзвюх тысяч салдат і афіцэраў надалей застаецца невядомай.

(вр)

 

**Весці БССР**




# ГЕРБ РЭСПУБЛІКІ

На пячатках і на афіцыйных бланках дзяржаўных устаноў намаляваны герб рэспублікі. Гэта знак дзяржавы, яе афіцыйная эмблема і сімвал сувярэннасці.

Дзяржаўны герб Беларускай ССР упершыню быў апісаны ў першай Канстытуцыі БССР, прынятай на I з'ездзе Саветаў Беларусі 3 лютага 1919 г. (артыкул 31). Па свайму выгляду ён быў надзвычай блізкі да герба РСФСР і складаўся з намаляваных на чырвоным фоне ў праменнях сонца залатых сярпа і молата. Гэтым самым падкрэслівалася адзінства дзвюх братніх савецкіх рэспублік, выказвалася агульнасць іх палітычных інтарэсаў у барацьбе за дыктатуру рабочага класа і дружалюбнае супрацоўніцтва народаў.

Пасля ўтварэння Саюза ССР новы герб Беларускай ССР быў зацверджаны 11 красавіка 1922 года разам з новай Канстытуцыяй рэспублікі на VIII Усебеларускім з'ездзе Саветаў. Праект малюнка герба быў распрацаваны старэйшым беларускім мастаком В. Волкавым. Апісаны ён быў у артыкуле 74 Канстытуцыі БССР. Герб складаўся з сярпа і молата ў праменнях сонца, акружаных вянком з пераплеценых канюшынай жытнёвых калоссяў злева і справа — з дубовай галінкі. Унізе вянка віднелася частка зямнога шара. Вянок быў перавіты чырвонай стужкай, на якой быў напісаны дэвіз: «Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!» — на чатырох мовах (беларускай, рускай, польскай і яўрэйскай). Унізе герба — надпіс «БССР», а наверсе — пяціканцовая зорка.

Гэты герб, як і гербы іншых рэспублік, меў агульную эмблему з саюзам — серп і молат і адметныя рысы, якія характарызавалі нацыянальныя і прыродныя асаблівасці Беларусі. Не змяняўся ён больш адзінаццаці год.

Значныя змены ў малюнку герба і надпісах адбыліся ў 1938 г., калі ў вянку герба дубовая галінка была заменена жытнёвым калоссем, пераплеценым ільном, а надпіс дэвіза быў пакінуты толькі на дзвюх мовах: беларускай і рускай. Гэтыя змены былі зацверджаны 26 ліпеня 1938 г. першай сесіяй Вярхоўнага Савета БССР. Перарабіў малюнак новага герба мастак В. Волкаў.

Зацверджаны ў 1938 г. герб БССР з'яўляецца сімвалам рэспублікі і цяпер. Пад гэтым гербам працоўныя Беларусі адстаялі сваю свабоду і незалежнасць у цяжкай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады другой сусветнай вайны, пад гэтым гербам яны аднавілі разбураную вайной народную гаспадарку і дасягнулі буйных поспехаў у развіцці прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

Беларускі герб выйшаў на міжнародную арэну. Беларуская ССР з'яўляецца адной з краін — членаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і прымае ўдзел у рабоце Генеральнай Асамблеі ААН і яе камітэтаў і органаў. Беларусь разам з іншымі краінамі змагаецца за мірнае суіснаванне ўсіх краін незалежна ад іх палітычнага ладу, змагаецца за мір ва ўсім свеце.

**Е. Васільеў**
**Н. Камінскі**

# СЯЛЯНЕ ЗАБАВЯЗАЛІСЯ

Нядаўна ў Новым Ляўкове адбыўся вясковы сход. Вёў яго наш грамадскі аграном Мікалай Марчук. На сходзе прысутнічалі амаль усе сяляне з вёскі, нават па дзве асобы з адной хаты. Сход вырашыў некалькі праблем. Адносна правядзення аграмінімум на вёсцы ў 1965 годзе сяляне забавязаліся пасадзіць па 0,10 га кармавой капусты. Насенне і штучныя ўгнаенні дае ГС. Апрача таго абяспечвае працай вясковага агранома. Гэта дасць магчымасць павялічыць сялянам колькасць кармавых паш на зіму. Лісце капусты і буракоў можна даваць у сілас, а гэта рэзерв бялкоў у пашы для хатняй жывёлы. ГС у першую чаргу ахвотным садзіць кармавую капусту абяспечыць азотавымі ўгнаеннямі. За такога роду мерапрыемства ўзяліся і жыхары в. Міхнаўкі (Гайнаўскі пав.).

Сяляне з Новага Ляўкова забавязаліся таксама пабяліць вапнай сцены ў хлявах і зрабіць выгадныя для жывёлы жолабы.

Дзеля папулярызацыі адборнага насення 16 гаспадароў узяло па 100 кг аўса ў ГС-се на насенне. Гэта дасць магчымасць абмену. За 100 кг аўса папулярызатары будуць браць у час абмену 110 кг. Гэта прычыніцца да лепшых ураджаяў аўса.

10 гаспадароў узяло на абмен насенне ячменю. Сяляне вырашылі загаспадараваць сенажаці і лугі, што недалёка зmeліраванай ракі Баброўкі. Дагэтуль гэтыя прылясныя сенажаці былі дзікімі, малакарыснымі. На заканчэнне сходу аграном раздаў сялянам кніжачкі «Мая праграма аграмінімум на гады 1965—1966».

**Янка Цялушэцкі**

**Палеміка**

# ДАМЯН ЗАСТАЕЦЦА ДАМЯНАМ

Здарма Дваракоўскі здзіўляўся, як «Мары аб свеце адзіноцтва», маўляў, такая бесталкоўшчына, маглі паявіцца ў «Ніве». Факты даказалі другое. Разгарнулася нечаканая дыскусія. Матэрыял, хоць і з-пад сякеры, аказаўся паўнацэнным, а галоўнае — патрэбным, з'явіўся ў час. Чытачы з сэрцам выказваюць свае погляды на праблему жыццёвых сцежак - дарожак паўлючукоўскага абяздоленага Дамяна. Гэта сведчыць аб нашай грамадскай даспеласці.

Шырокая дыскусія на гэту балючую тэму можа даць станоўчыя вынікі. Можна зрабіць скок ад слоў да справы, адшукаць упаўшых у мары адзіноцтва Дамянаў, грунтоўна змяніць да іх дагэтуляшнія погляды і адносіны і падаць ім шчырую руку помачы.

Па-рознаму загучалі галасы дыскутантаў, але, апрача няяснага ў канкрэтнасці голаса Шведа і шматзначнага — Анташэвіча, усе, больш-менш, аднолькава варожа і непрыхільна да абяздоленага паўлючукоўскага Дамяна. Большасць дыскутантаў гучыць громападобна: — Няма ў нас Дамянаў, зніклі, як мінулае Старое Вёскі. А калі нейкі Дамян прымазаўся да нас, то не варта на яго звяртаць увагі, гэта ненармальны чалавек. Ці ж маем умешвацца ў яго сямейныя непаладкі? А мо' яшчэ і яго дзецям смаркачы ўціраць?

Не, шаноўныя дыскутанты! Калі не хочаце ўладзіць сямейныя непаладкі Дамяна з Манькай, то хоць, будзьце ласкавы, не псуйце іх. Не садзіце вы (як гэта зрабіў Дваракоўскі) юнцу, ізаляванаму ад «мараў адзіноцтва», на матацыкл прывабную Маньку, не вязіце яе за дзесятыя горы, дзе яна, забыўшыся аб Дамяну і засморканых дзецях сваіх, будзе сачыць за міжпланетнымі палётамі. Блудна лічыць Дамяна самалюбам, які, акружаны людской непрыхільнасцю, уцёк (з цяжарам на сэрцы) з наседжанага, роднага гнязда шукаць шчасця ў вялікім горадзе. Трапіў з агню ў полымя.

Не дзівуймася яго адзіноцтву. Хто ж быў бы інакшым, апынуўшыся ў яго жыццёвых абставінах. Ці магчыма было б шукаць у людзей сяброўства, калі гэтыя людзі (ці то ў вёсцы, ці ў горадзе) на кожным кроку падстаўляюць яму нагу, жорсткія ў адносінах, заўсёды робяць яго прадметам сваіх грубых насмешак, заўсёды ставяць яго ў бязвыхаднае становішча.

Па якіх прычынах лічыць Дамяна псіхапатам? Ці за тое, што ён ні разу не набіў сваю жонку, няверную, ветраную Маньку? Што ўсямерна аддадзены працы? Што закончыўшы працу бяжыць дамоў выціраць дзецям насы, упарадкаваць хату? Што хварэе сэрцам за Маньку?

Ці ж нельга зрабіць выводу, што Дамян пазбягае знаёмства з людзьмі не з самалюбства, а з сораму за сваё паніжэнне як мужчына?

На маю думку, паўлючукоўскі Дамян не самалюб і не псіхапат, а бяспрыкладна добры чалавек з натуры. Ён сумленны, працавіты і добры семянін.

Дыскутанты не звяртаюць увагі на Маньку. А яна ключ «мараў аб свеце адзіноцтва» Дамяна. Манька бязлітасная эгаістка! Яна прывабна для сабакаватых мужчын і бяспрыкладна люба для нешчаслівуца Дамяна. Ён жудасна церпіць і цярпець будзе, але не пакіне яе і сваіх (а мо' і не сваіх) дзяцей, таму што ён іх любіць. Яго мары адзіноцтва не давядуць яго да самагубства, будзьма спакойны. Пакуль гарачая кроў будзе бурліць у сэрцы Манькі-амазонкі, становішча Дамяна будзе такое самае, ці яны будуць жыць у вёсцы, ці ў горадзе.

Дамян мог бы быць шчаслівы, каб са сваёй Манькай апынуўся і абсталяваўся на бязлюднай выспе. Невядома толькі, ці была б тады шчаслівa Манька.

Шчасце ці няшчасце Дамяна ці Манькі нам аднолькава важна. Праблема вырашаная. Але трэба да гэтага высокай ступені культуры ўсяго грамадства, высокай маралі, сумленнасці, узаемнай павагі чалавека да чалавека. На жаль, такімі высакароднымі якасцямі ў нас ганарыцца невялікая доля грамадскасці. Таму, у сілу абставін, праблема застаецца невырашальнай. Так што пакінем Дамяна Дамянам. Чорт яго не возьме.

**МІХАСЬ КРАСОЎСКІ**
Малынка

**Фальклор**

**З запісаў Рыгора Шырмы**

## Піліпку, затні ліпку

Піліпку, затні ліпку (2)
Дзіцяці на калыску.

— Не буду ліпку цяці (2)
Для чужога дзіцяці!

— Піліпку, тваё, тваё, (2)
На цябе падобнае:

І лічанька такое, (2)
Бо мы спалі абое!

Запісана ў 1928 г. ад кабет у в. Пясчанікі. Беластоцкага павета.



Ля Крынак.

Фота: Паўлючук



 

 

(Працяг са стар. 1)

# ІМЯ СЯРЖАНА

ныя іх часткі ды складалі ўсё гэта да купы. Урэшце, яшчэ ў 1945 годзе, выпусцілі сваю першую прадукцыю — шэры матэрыял, так званую «украінку». Рабочыя даставалі за сваю працу толькі, што ледзь хапала на адны жаночыя панчохі. Людзі аднак не наракалі. Ведалі, што ўпершыню працуюць для сябе. Прадукцыя памалу расла, і было ўсё лепш. Мяне зараз выбралі ў праўленне прафсаюзаў. Прыходзілася ездзіць шукаць для рабочых хлеба, мукі, мяса, тлушчу. З Лодзі прысылалі нам крыху розных тэкстыльных матэрыялаў. Стараўся пра гэта дырэктар Сяржан. Дзялілі мы гэтыя матэрыялы сярод рабочых, а яны мянялі іх у сялян на хлеб і мяса. Каб толькі неяк перажыць гэты цяжкі час. Ды яшчэ бандзюгі вылезлі са сваіх воўчых сховішчаў. Бачылі вы ў нас на скверы помнік? Сярод іншых таварышаў там таксама ўвекавечана імя Язэпа Сяржана, нашага першага дырэктара. Яго ў 1946 годзе... Ішоў разам з войтам вуліцай. Пераступілі дарогу. Язэп скочыў уцякаць, адстрэльваючыся адначасова. Бандыцкая аўтаматная чарга, на жаль, дагнала яго. Як сіта падзіраўлены завіс на плоце.

На твары Нікадзіма Шэйногі паяўляюцца прызнакі злосці. Ён маўчыць.

Потым міхалоўскую ваўняную фабрыку злучылі з беластоцкімі суконнымі фабрыкамі, а 1-га мая 1950 года назвалі іх імем дырэктара Сяржана. Такім вось чынам узнікла цяперашняе Беластоцкае прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя дырэктара Сяржана. Міхалоўскі філіял стаў «прадпрыемствам Д». Цяпер там працуе каля трохсот рабочых. Ткачы зарабляюць тут па 1700—1800 злотых у месяц, а прадзільшчыцы — 1600—1700 зл. Жыць можна, тым больш, што гэта заработак пастаянны. Ніхто нават не падумае, што вось нечакана зачыняць вароты іхняй фабрыкі і скажуць: бывайце здаровы, вы нам непатрэбны, фабрыка не працуе. Многія сярод міхалоўскіх рабочых добра памятаюць, што так бывала. Вось успамінае Нікадзім Шэйнога:

— Наймацнейшай фабрыкай была фабрыка Лазніка, Бірмбаума і суполкі. Яна найдаўжэй працавала, Калі рабочы бесперапынна працаваў 20 тыдняў і потым яго звольнілі, дык гміна абавязана была яму плаціць на працягу 13-ці наступных тыдняў па адной залатоўцы ў дзень. Таму кожны хацеў працаваць у Лазніка. Здаралася так, што нават рабочыя падменьваліся. Той, хто ўжо меў за сабой 20 тыдняў працы, адступаў месца другому. Вядома, за адступнае трэба было аддаць цэлы заработак. Другія фабрыкі ніколі бесперапынна не працавалі даўжэй аднаго месяца. Фабрыканты часта плацілі талончыкамі. Дастанеш талончык, а крамар у краме паглядзіць і кажа: «Хоч, за палавіну вартасці, дык вазьму, а не, — падатрыся гэтымі талончыкамі». Былі гандляры, што іх куплялі. За стозлатовы талон плацілі па 60—70 злотых. Лазнік аднойчы ўхітрыўся плаціць сваім рабочым пледамі свайго вырабу. Лічыў гэтыя пледы па 6 зл. Затым купляў іх назад ад рабочых па 4,50 зл. Вось як выкарыстоўвалі тады нас фабрыканты!

Ад грохату машын непрывычнаму чалавеку проста баляць вушы. Гэта працуе новы завод, якога будову закончылі ў 1960 годзе. Вось велізарная скрыня. Гэта горла машыны. Паглынае яна падзертыя суконныя шматы са старых світраў і іншай старой вопраткі. З другога яе канца з гэтых шмат снуюцца дзесяткі роўненькіх нітачак, **а з іх міхалоўская фабрыка штодзень выпускае амаль дзве тысячы метраў сукна.** Часам прыходзіцца рабіць на экспарт. Вось у прошлым годзе высылалі ў Індыю і на Кубу.

Прадпрыемства мае свае клопаты. Усе тут машыны абсталяваныя электрычнымі рухавікамі. Рухавікі падключаны пад гэтую самую электралінію, з якой карыстаюць сяляне навакольных вёсак. Мала надзейная гэта лінія. Часта здараюцца перапынкі ў дастаўе току. Недастаўшы электрычнай стравы, рухавікі маўчаць. **Кожная гадзіна іхняга беспрацоўя каштуе прадпрыемства 20 тысяч злотых затрат.**

Ёсць просты выхад з гэтага непрыемнага становішча: трэба падключыць прадпрыемства пад так званую прамысловую электралінію. Але гэтай лініі ў Міхалове няма. Яе драты сягаюць толькі Заблудава. Трэба будаваць, а будова гэткай лініі каштавала б вялікія мільёны залатовак. Энергетыкі раскладаюць бязрадна рукі: пачакайце да наступнай пяцігодкі. Прыдзецца тады чакаць і маліцца, каб як найменш псаваліся розныя «кропкі» і трансфарматары.

Вяртаемся назад у кантору. Нікадзім Шэйнога працуе цяпер тэхнікам тэхнічнага кантролю.

— Ну, як уражанні? — пытае мяне.

— У вушах шуміць, — адказваю і думаю, што ніхто не змог бы прыдумаць лепшага помніка таму чалавеку, які першы прыняў на сябе абавязак узняць з руіны гэтую фабрыку, бо толькі працай можна шанаваць памяць звычайнага хлебароба, дырэктара Язэпа Сяржана.

ВІКТАР РУДЧЫК

---

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# ДЗЕ ШУКАЦЬ ВІТАМІНЫ

Вучоныя гавораць: кожны з нас павінен за год з'есці каля 130—150 кг гародніны і каля 70—75 кг фруктаў. Але мы неяк не дацэньваем гародніны — найлепш мы любім кавалак мяса. Многія пераконаны, што добры абед — гэта шмат мяса і бульбы. Часам толькі трошкі морквы, буракоў, салаты — як на лякарства.

На аднаго грамадзяніна ў нашым ваяводстве ў год прыпадае каля 90 кг гародніны і 20 кг фруктаў. Летам яшчэ кожны з'ядае з нас трохі агуркоў, салаты, памідораў. Зімой — амаль нічога. І калі гаворыцца аб вітамінах, дык многім здаецца, што маюцца на думцы аптэка і таблеткі.

Падлічана, што ў 1980 годзе, каб забяспечыць Беласток гароднінай і фруктамі, трэба будзе 16 тыс. тон гародніны і ў два разы больш фруктаў. Найбольш гародніны мы з'ядаем восенню, а трэба больш раўнамерна на працягу ўсяго года. Арганізм патрабуе пастаяннага прыплыву вітамінаў. Без іх лёгка захварэць. Не заўсёды мы мала спажываем гародніны толькі таму, што яе ў нас мала. Часта на малое спажыванне маюць уплыў высокія цэны. У гэтым годзе беластоцкая спулдзельня мела значныя запасы яблык і яблыкі былі ў нас даволі танныя. Цяпер запасы канчаюцца, трэба купляць яблыкі ў Варшаве і цяпер цана на яблыкі значна падскочыла.

Таму стараемся збудаваць у Беластоку вялікі склад на гародніну. Павялічана кантрактацыя гародніны.

Вырошчваць гародніну на продаж вельмі аплачваецца. Напр., в. Дзяніскі атрымлівае ў год за агуркі і іншую гародніну каля 1 млн. зл. У гэтай справе шмат ініцыятывы праяўляе спулдзельня ў Бельску. Існуюць вялікія шанцы, каб значна павялічыць прадукцыю. Іменна цяпер сяляне павінны заняцца парніковымі скрынкамі. Робім скрынкі з паўтарацалевых дошак. Даўжыня іх залежыць ад планаванай колькасці парніковых вокан (пераважна 5, памерамі 1 м х 1,5 м). Апрача гэтага трэба зрабіць фортачкі і падрыхтаваць маты, каб прыкрываць вокны ў час замаразкаў.

У парніковых скрынях высяваем ранняю капусту, цвятную капусту, салат, поры, цыбулю. Найлепш сеяць радкамі (адлегласць паміж радкамі 7 см). Калі расліны разрастуцца, перасажваем іх у другія скрынкі. Такім чынам падрыхтоўваем расаду. Калі расаду рана высадзіць на поле, будзем мець раннюю гародніну і зможам прадаць яе даражэй.

Трэба ведаць, што гародніна добра расце на розных глебах — на чарназёмах, на пясчаных глебах па гліне, на тарфах. У кліматычных умовах Беласточчыны добра расце цыбуля (высокія ўраджаі на Сакольшчыне), капуста, буракі, морква, агуркі, памідоры, фасоля, гарох.

ІНЖ. М. СУХАЖЭБРСКІ

# НОВАЕ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ

Праз некалькі год гаспадары з вёскі Катлы (Бельшчына) дыскутавалі аб сарганізаванні сельскагаспадарчага гуртка. З гэтай ініцыятывай аб сарганізаванні гуртка выступілі члены партыі. Новая думка прыйшла людзям з новым годам. Даволі гаспадары нацягаліся з машынамі з гуртка Субуткі, Мякіш, Пасынак. Пераканаліся, што сельскагаспадарчыя машыны добраму гаспадару патрэбны на сваім загуменні. Выбранае кіраўніцтва (прэзас І. Сіверскі, сакратар П. Раманюк і І. Мінкевіч) зараз думае купіць некалькі трактараў, малатарню, некалькі конных і трактарных сеўнікаў, бульбакапалку і іншыя неабходныя машыны ў сельскай гаспадарцы. Ёсць з чаго купляць. На грамадскім фондзе на развіццё сельскай гаспадаркі Катлы зараз маюць каля мільёна злотых. Як жаваранкі ранняй вясною, заспяваюць сваю жыццедайную песню машыны на палях катлоўскіх жыхароў.

К. С.
вёска Катлы

---

# У ДАПАМОГУ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ

ГАЛІНА НАЖОЎНІК

# ВЫЙГРАНЫ ЧАС

АДНААКТАВАЯ П'ЕСА

Дзеючыя асобы:

СТАБЛОЎ ПЯТРО — камандзір партызанскага атрада, 37 год.
МАКСІМ — падпольшчык, сябар Пятра Стаблова, 37 год.
КАЦЯРЫНА — настаўніца, жонка Стаблова, 36 год.
МАРЫСЯ — яе дачка, 16 год.
ТРЫ НЯМЕЦКІЯ САЛДАТЫ.

Дзея адбываецца ў вёсцы, на акупіраванай немцамі тэрыторыі. Хата вясковай настаўніцы. Вялікі пакой, простая, але прыгожая, мэбля. Позні вечар. Чуваць, як вецер шугае ў дрэвах, скрыпіць сасна. Кацярына сядзіць ля стала, з трывогай прыслухоўваецца да ляснога шуму.

**КАЦЯРЫНА: Шуміць бор. Ужо месяц, як мы адны з дачкой, а яго няма. Сказаў, пачуеце пра мяне, а там і сам з'яўлюся. Крычыць сава, а мне чуюцца стогны дзяцей нашых, якіх катуюць фашысты. Здаецца, няма чаго трывожыцца. Друкарня добра схавана. А можа саспу пасадзіць над ёю?**

**За акном успыхнула чырвонае святло, пасля зялёнае, а потым жоўтае.**

**Кацярына падбягае да акна.**

**КАЦЯРЫНА. Ракеты! Тры! Значыць, Пятро блізка. Здаецца, сэрца спынілася...**

**Некалькі моцных выбухаў. На вокнах іграюць водблiскі далёкага пажару.**

**КАЦЯРЫНА. Гарыць, навокал гарыць. Туды! (Парываецца да дзвярэй і вяртаецца). Не, я не маю права. Мне даверылі друкарню і дакументы. А там Пятро. І дачкі не чуваць...**

**У акно тройчы пастукалі. Кацярына адчыняе дзверы. Хутка ўваходзіць Марыся. Вельмі ўсхваляваная.**

**КАЦЯРЫНА. Што там, Марыся?**

**МАРЫСЯ. МТС, бакі з бензінам, машыны — усё ўзляцела ў паветра. Мора агню, быццам пекла. (Прыкручвае лямпу).**

**КАЦЯРЫНА: Навошта ты гэта?**

**МАРЫСЯ: Немцы вуліцай крадзецца. Маўчы.**

**Кацярына ўсхваляванна абдымае Марысю. Так яны і стаяць, быццам скамянелыя, з выразам гранічнага напружання і трывогі.**

**МАРЫСЯ: Дзядзька Свірыд сказаў, што магчыма, прыйдзе бацька.**

**КАЦЯРЫНА: Ён там, я ведаю. (Прыслухоўваецца). Ты чуеш крокі? Здаецца, да нас.**

**Нехта тройчы стукаецца. Маці і дачка ўстрапянуліся: «Бацька!» Кацярына адчыняе дзверы.**

**Уваходзяць Пятро і Максім.**

**ПЯТРО: Родныя мае! Кацярына! Дачушка!**

**Яны абдымаюцца. Кацярына выцірае слёзы.**

**ПЯТРО: Па жывых не плачуць. Ну, годзе, годзе, я ж таксама не каменны.**

**КАЦЯРЫНА: Ты ўсё жартуеш. А мы вочы прагледзелі...**

**ПЯТРО: Ну і гаспадары мы. Госць жа стаіць. Не пазнаеш Максіма?**

**КАЦЯРЫНА (здзіўлена і радасна): Сядайце, прашу, я так даўно вас не бачыла. (Да Пятра трывожна). Што там гарыць?**

**ПЯТРО: Максімава работа, яго і пытай.**

**КАЦЯРЫНА: Максімава? Ніколі б не сказала. Ён быў...**

**МАКСІМ: Не верыце? Кажыце, я не пакрыўдую.**

**ПЯТРО (да Марысі): Марыся, дачка мая, як вырасла. (Абдымае яе). Давядзецца табе пастаяць за рогам вуліцы. Калі што якое, прыбяжыш і пастукаеш тройчы ў акно.**

**МАРЫСЯ: Добра тата! (Пабегла, махнуўшы на развітанне рукой).**

**КАЦЯРЫНА (да Максіма): Я здзіўляюся вам, Максім. Вы спакойны, хоць толькі што вырваліся з самага пекла.**

**ПЯТРО: Гэта для фашыстаў пекла.**

**МАКСІМ: Школа таксама загінула. Шкада.**

**КАЦЯРЫНА: Наша школа? Нібы штосьці абарвалася ў грудзях. Добра, што прылады схавалі ў зямлю.**

**ПЯТРО: Вось і добра. А школу і МТС пабудуем новыя, гэта я вам абяцаю. Наш фронт недалёка. Яшчэ дзвесце кіламетраў — і нашы будуць тут.**

**КАЦЯРЫНА: Нашы блізка... Гэта праўда? Толькі б убачыць уласнымі вачыма. (Глядзіць у акно). Гары, агонь! Асвятляй нашым шлях!**

**ПЯТРО: Не трэба пра пажар, няма часу. Максім даўно хацеў пабачыць цябе, ды нічога не зробіш — няма часу. Усё прыгадвае, як вы разам настаўнічалі. (Да Максіма). Ты варон лавіў. Вось і застаўся нежанаты.**

**МАКСІМ (яму прыемна): Калі б не было на свеце варон, лісам сыру б не перападала.**

**ПЯТРО: Ты чуеш, Каця, каго ён сырам называе. (Смяецца). А мяне лісам, значыць.**

**КАЦЯРЫНА: Ды хопіць вам. Ідзіце ўмывацца, а я прыгатую вячэру.**

**ПЯТРО: Не паспею я павячэраць, Каця! Няма часу, галубка.**

**КАЦЯРЫНА: Божухны! Я думала — пабудзеш некалькі дзён.**

**ПЯТРО: І гадзіны не магу. Зямля гарыць за намі, хіба не бачыш? Мінута — гэта жыццё.**



 

# ЗОРКА

ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 9 (370) 28 лютага 1965 года



## КАРМУШКІ

Лютаю зімой для птушак
Нарабілі мы кармушак.
Для сяброў сваіх для верных
Крошкі сыпалі і зерне.
Вось і птушкі прыляцелі,
Пазбіралі ўсё, паелі

І сказалі дружным хорам:
«Памаглі вы нам у горы.
Мы паможам вам вясной,
Калі цёпла стане зноў».

**Мікола Дземідовіч**

# Нашчадак

Дзед Ігнась яшчэ апоўдні гуляў з Алеськам у жмуркі, маляваў казака з вусамі і чырвонымі лампасамі. А падвечар старому зрабілася дрэнна. Ён схапіўся за грудзі, пахіснуўся і апусціўся ў крэсла.

Алеська спачатку падумаў, што проста дзед сеў адпачыць. Але ўбачыў, як збялелыя дрыготкія пальцы камячаць на грудзях кашулю, выбег у другі пакой і закрычаў:

— Дзеду дрэнна!

Дзеда паклалі ў ложак, паставілі на тумбачку бутэлечкі з лекамі.

Доктар памацаў пульс, растлумачыў, што і калі даваць хвораму.

Такія выпадкі з дзедам ужо здараліся. Думалася, што і на гэты раз хутка палягчэе.

Але міналі дні, а хвароба не адпускала дзеда. Паднялася тэмпература, дзед пачаў трызніць. Усё лаяў нейкага Шысцярова. Часта крычаў:

— Эскадрон, стройся!

Алеська смяяўся, Юрка тузаў брата за рукаў:

— Цішэй! Гэта яму вайна сніцца.

Маці прыклала дзеду мокрую хустачку да галавы, і ён пачаў дыхаць раўней. Спаў доўга. Увесь час Алеська не адыходзіў ад яго. Шмат гадоў дзеду, за семдзесят. Алеська ведаў, што дзед ваяваў з белымі, а ў апошнюю вайну — з фашыстамі. Часта расказваў дзед пра свае ваенныя прыгоды. Алеську ўсё было мала, прасіў расказаць яшчэ...

У дзеда шмат цікавых рэчаў з часоў рэвалюцыі і вайны: узнагароды, граматы, чырвонаармейскія зорачкі, будзёнаўскі шлем, шашка з раменным цемляком і ножнамі, на якіх высечаны прыгожыя ўзоры. Алеська ведаў усе гэтыя рэчы, як свае пяць пальцаў, усе яны захоўваліся ў дзедавай шафе.

І вось ужо некалькі дзён дзед хварэе. Не пагаворыш з ім, як раней, не пасмяешся. Аднойчы, калі Юрка быў у школе, а маці на рабоце, Алеська адчыніў шафу і пачаў вымаць дзедавы рэліквіі. Цэлы музей!

На грамадзянскай вайне дзеда ўзнагародзілі ордэнам Чырвонага Сцяга. Гэты ордэн разам з двума другімі ордэнамі і чатырма медалямі, якія дзед прывёз з Айчыннай вайны, прышпілены да гімнасцёркі. Дзед шмат фашыстаў палажыў. Недзе ў Альпах варожая куля прашыла дзедавы грудзі, праляцела каля самага сэрца. Вось і кашляе, хрыпіць і падае ў непрытомнасць ад тэтай даўняй раны дзед Ігнась.

Калі Алеська ляжаў на падлозе і страчыў са свайго аўтамата-шашкі, дзед расплюшчыў вочы, прыўзняў галаву. Моўчкі сачыў за ўнукам. Нарэшце, Алеська азірнуўся, падскочыў, кінуўся да дзеда:

— Табе ўжо добра? Палягчэла?

— Добра.

— А я ў вайну гуляў... Шашку ўзяў... Гімнасцёрку надзеў...

— Можаш браць і надзяваць. У лобы час. Можаш. А цяпер сядзь каля мяне. Вось тут.

Дзедава галава ўпала на падушку, ён стаў дыхаць шумна, з хрыпам.

— Унучак, — сказаў дзед і паказаў рукой на шафу — Там твая... спадчына. І шлем, і ўзнагароды, вырасцеш, заслужы такое ж сам. І ніколі не забывайся, як прыйшло да цябе шчаслівае жыццё. Будзь байцом за гэта жыццё. Такім, як твой дзед, бацька...

Апошнія слова ён прахрыпеў і заснуў.

Потым пачаў гаварыць і з яго гаворкі Алеська разабраў толькі словы: «Беленькія, сіненькія. Яруткі, браткі. Хачу кветкі снежнікі. Хачу кветкі...»

Дзеці весела гулялі, Алеська сёння да іх не пайшоў. Ён пастаяў самотна ўбаку, потым падышоў да суседкі Зіны і сказаў ёй:

— Наш дзед Ігнась хварэе. Просіць кветкі снежнікі. Тыя, што пад снегам зімуюць. Навошта?

У Зіны вочы расшырыліся.

— Гэта перад смерцю, — сказала яна Алеську на вуха, як нейкую тайну. — Ой, як страшна!

І тут жа загаварыла голасна, амаль на ўвесь двор:

— Усе хворыя нечага просяць перад смерцю. Я чытала. Калі яму тое даць, што просіць, ачуняе.

Алеська ўспомніў збялелы дзедаў твар і кінуўся з двара ў канец вуліцы, за якой пачынаўся лес.

Ён прыбег на паляну, стаў на калені і пачаў з ліхаманкавай упартасцю раскопваць снег. Рукі адчулі, што пад снегам трава свежая, не пажоўклая. Алеська вырваў яе дзве жмені. Пабег пад ёлку, дзе было зацішна, расціснуў рукі. З пучкоў травы на Алеську зірнулі кволымі белымі вочкамі яруткі. Непаслухмянымі пальцамі хлопчык расшпіліў гузік паліто і асцярожна паклаў за пазуху некалькі дарагіх сцяблінак...

Калі Алеська вярнуўся дадому, Юрка ўжо спаў, маці сядзела каля дзеда і, смеючыся, нешта расказвала. Дзед слухаў і ўсміхаўся.

— А вось і нашчадак наш з'явіўся, — узрадаваўся дзед.

Запарушаны снегам, увесь белы і мокры, з чырвонымі рукамі, — рукавіцы згубіліся ў лесе, — Алеська падбег да дзеда.

— Вось кветкі... снежнікі... — працягнуў ён халодны тонкі пучок ярутак. — Знайшоў у лесе. — І дадаў шчасліва: — Табе палягчэла... Здаровым стаў...

Маці глядзела на сына і нічога не разумела.

**Васіль Хомчанка**






# Паветра, вада, зямля

(Гульня ў памяшканні)

Гэта гульня на кемлівасць і хуткасць. Усе дзеці сядаюць у кружок. У вядучага ў руках хустачка. Вядучы кідае аднаму з гуляючых і хутка гаворыць: «Паветра!», або «Вада»!, або «Зямля!» Калі ігрок зловіць хустачку, ён павінен хутка назваць жывёлу, якая або лятае па паветры, або плавае ў вадзе, або ходзіць па зямлі, і перакінуць хустачку другому іграку таксама з воклічам.

— Ану, пачалі!

— Паветра — Ластаўка! Зямля — Слон! Вада — Кіт!

Памыляцца ніяк нельга. Калі хто замарудзіць з адказам або адказ няправільна, вядучы назначае штраф. І вельмі непрыемны. Ён можа прымусіць прайграўшага стаць на адной назе да таго часу, пакуль хто-небудзь з гуляючых не выручыць: кіне яму хустачку: Але і тут усё будзе залежаць ад таго, ці дасць прайграўшы правільны адказ. Калі правільны — штраф знімаецца, калі не — давядзецца пацярпець да другога разу.

## А*Д*Г*А*Д*А*Н*К*А

Адшукайце зайцаў, якія схаваліся ад хітрай лісіцы.



Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Zorka».

# ТРЫБУНА чытачоў

## УЖО ХУТКА

Шмат чаго можна пачуць аб вёсцы Паўлы, Бельскага павета. Але да гэтай пары няма там электрычнага святла. Хутка яно ўжо будзе. Зараз у вёсцы кіпіць работа. Як пасля дажджу ў лесе вырастаюць грыбы, так і вырастаюць на вуліцы бетонавыя слупы. Жыхары Паўлаў дапамагаюць манцёрам. Капаюць на слупы ямы, зрэзваюць дрэвы, якія перашкаджаюць пры зацягванні правадоў. Манцёры — гэта маладыя хлопцы. Днём працуюць, а вечарам ходзяць да дзяўчат на вечарынкі. Не адзін з іх пакахаў паўлаўскую прыгажуню. У дзяўчат таксама патурбаваныя сэрцы. Сумуюць, што хутка праца ў манцёраў скончыцца і трэба будзе развітацца з імі. Так, праца набліжаецца да канца. Усе з гэтага вельмі задаволеныя, бо хутка ў Паўлах засвеціць электрычнае святло. Незадаволеныя толькі закаханыя.

**Дзяўчына з Паўлаў**

## УМЕЮЦЬ ГАСПАДАРЫЦЬ

Не кожны селянін умее так добра гаспадарыць, як Сярожка і Ваня Ляшкевічы з Навін. Рана памёр іх бацька. Былі яны тады маленькімі хлопчыкамі. Як падраслі, пачалі хутка налажваць гаспадарку. Перш за ўсё ўзяліся за будову хлявоў. Нядаўна пабудавалі мураваную хату і гумно. Усе работы выконвалі ўласнымі рукамі і закупленымі сабою прыладамі. Калі паглядзець на іх палеткі, яны адрозніваюцца ад суседніх. Збожжа там расце высокае, густое, высакаякаснае. Чаму найлепшае ў іх? Таму што маладыя гаспадары многа чытаюць сельскагаспадарчых кніжак і часопісаў.

У іх жывёла таксама выглядае найлепш у вёсцы. Ды карысці маюць з яе нямала. Многія старыя гаспадары прыглядаюцца, як яны працуюць, і з іх бяруць прыклад.

**Зіна Ялінік**
вёска Навіны

## ГУРТОК ПАЛЯЎНІЧЫХ

Гурток паляўнічых № 1 у Гайнаўцы налічвае 30 асоб. У першых днях студзеня гэтага года выканаў ён гадавы план адстрэлаў зайцаў. Цяпер зайцы лапаюць жывымі. Паляўнічыя ўтрымліваюць кантакт з вучнямі вясковых школ распалажаных у лавецкай аколіцы. Школьнікі дакармляюць дзічыну і атрымліваюць за гэта грашовыя і рэчавыя ўзнагароды. Гурток скупляе таксама фазанаў. У мінулым годзе закупіў іх 80 штук. Ужо пачалося паляванне на гэтыя птушкі.

**Міша Тэлешэўскі**
в. Рэпіска

## НАШ ЛЕКАР

Лекар Мікалай Швед пачаў працаваць у пункце аховы здароўя ў Дубічах Царкоўных пад канец лета мінулага года. Свае медыцынскія здольнасці ён адразу паказаў людзям. Пачалі прыязджаць хворыя да новага лекара, які кожнаму нешта добрае параіць, палечыць, а таксама цёплае слова скажа. Калі і ўначы нехта прыедзе фурманкай па лекара, ён, ні на што не зважаючы, едзе ратаваць хворага чалавека. За сваю ахвярную працу лекар цешыцца вялікім аўтарытэтам у людзей.

Ад імя жыхароў вёскі Дубічы Царкоўныя шлю лекару Мікалаю Шведу як найлепшыя словы падзякі за яго ахвярнасць і жадаю яшчэ лепшых поспехаў у гэтай карыснай справе.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## РАМОНТ ДАРОГІ

Дарога, якая вядзе з Юшкавага Груда ў Бандары, была пясчаная і выбоістая. Восенню 1964 года пачалі яе рамантаваць. Пры рамонце дарогі працуе многа людзей з фурманкамі і без фурманак. Сяляне раскопваюць узгоркі і пашыраюць дарогу. А хто з канём дык возіць пясок і жвір. Цяпер хоць мароз, але работа пры рамонце дарогі працягваецца.

**М. Лаўрашук**
в. Бандары

## ПРЫЯЦЕЛІ СЦЭНЫ

Пры Беластоцкім тэатры група яго працаўнікоў аб'ядналася, каб дапамагаць удзельнікам сцэн аматараў, аб якіх мы ўжо пісалі. Такіх прыяцеляў сцэны аматара знайшлося тут 12 асоб: 9 акцёраў, памочнік рэжысёра, пастаноўшчык, грымёр. Іх роля — спатыкацца з аматарамі, памагаць, павучаць, перадаваць свае вопыты. (вл)

## ЧЫТАЧ «НІВЫ»

Ганна Калішэвіч з Відава з'яўляецца сапраўдным чытачом «Нівы» і адначасова архівістам. У яе пераховўваецца «Ніва» нават з 1956 года.

— Кожную «Ніву» я чытаю дакладна. Гэта значыць, усё: пачынаючы ад першай старонкі і канчаючы восьмай — гумарыстычна - сатырычнай. — Так гаворыць Ганна Калішэвіч. Вось, каб такіх нам чытачоў як найбольш

**Л. Л.**
Плёскі

## • НЕПАТРЭБНАЯ ТРАДЫЦЫЯ •

Праўда, Новы год мінуў ужо даўно, аднак я хачу сказаць некалькі слоў аб навагодняй непатрэбнай традыцыі, аб якой яшчэ і цяпер час ад часу можна ў нас пачуць. На Сакольшчыне, а пераважна ў раёне Крынак і Шудзялава, адзначаюцца два Новыя гады, адзін новага стылю, а другі старога стылю. Моладзь два разы прыносіць шмат незадавальнення сялянам. Ноччу перад Новымі гадамі, апрача ўсялякай варажбы, моладзь высцілае сцежкі-дарожкі з саломы. Вось, напрыклад, калі нейкі кавалер заходзіць да дзяўчыны, дык ужо абавязкова ад яе хаты да яго хаты з саломы будзе высцелена дарога. Знойдуць у кагс-небудзь салому і ўжо так яе растрасуць, што проста бяда. Ды каб адна была толькі выслана сцежка, гэта яшчэ многа саломы не растраслося б. Справа ў тым, што гэтых сцежак многа ў гэтыя дзве навагоднія ночы. У тых хатах, дзе жывуць дзяўчаты, хлопцы ходзяць па дахах і затыкаюць коміны і дым замест на двор вяртаецца ў хату. Апрача таго выцягваюць сані, зацягваюць іх на страху, або вывозяць у поле так, каб гаспадар пашукаў. Хаваюць таксама такія прадметы як казлы да пілавання дроў, вазы, бароны, плугі, а нават свінскія карыты. У раёне Шудзялава ёсць выпадкі, што некаторыя прадметы да сёння яшчэ не знойдзены. Гэтыя жарты не аднаму гаспадару задаюць турбот шукання, не аднаму напсуюць нерваў, неаднойчы даходзіць да сварак, а часам да інтэрвенцыі міліцыі.

Пара ўжо, каб гэтыя непатрэбныя традыцыйныя жарты ўжо скончыліся.

**Сцяпан Кузьма**
Сакольшчына

## МОДА







**Модная і практычная прычоска. Два ніжэйшыя здымкі паказваюць, як накручваць валасы на валкі і кліпсы, каб мець такую прычоску.**

## Ляшукі будуюцца

Вёска Ляшукі ў час II сусветнай вайны была поўнасцю спалена фашыстамі, а людзі вывезены ў Старое Ляўкова і Беласток. На тым месцы застаўся попел і зелле.

Пасля сканчэння вайны тыя людзі, якія засталіся пры жыцці, пачалі з'язджацца ў Ляшукі з розных бакоў, нібы птушкі вясною з выраю, якіх гнёзды былі разбураны. Кожны, хто толькі меў сілу, пачаў будавацца. Ад таго часу мінула ўжо больш дваццаці год. Будынкі з дрэва, на хуткую руку будаваныя, пачалі ў хуткім часе валіцца. На іх месцы будуюцца ўжо прасторныя і светлыя будынкі з цэглы або пустакоў. Муруюць іх свае майстры; Валодзя Грыко, Валодзя Рэент і Аляксандр Харкевіч — (с. Сяргея).

Каб на вясну, калі збіраецца многа работы, не заходзіла ў нашых жыхароў думка, што яшчэ не маюць будаўлянага матэрыялу, яны трымаюцца старой прыказкі: «куй летам сані, а зімой — калёсы» і ўжо цяпер запасаюцца ў матэрыялы.

На здымку: жыхары нашай вёскі — Косця Харкевіч і Ян Грыко вязуць пустакі.

Тэкст і фота: **Алік Харкевіч**
Ляшукі






**Дарагое СЭРЦАЙКА!**

Жыву я на Сакольшчыне. Люблю чытаць «Ніву» і куток «Сардэчныя тайны». Сама я пераканалася, што гэта добрыя парады, таму і пішу да цябе, каб ты мне параіла.

Ужо мінула два гады, калі я пазнаёмілася з хлопцам з суседняй вёскі — Яркам. Я пакахала яго. Часта мы сустракаліся (заўсёды Ярэк прыязджаў у нашу вёску). Гаварыў, што мяне кахае і абяцаў ажаніцца са мною. А цяпер ён даведаўся, што я цяжарная і зусім перастаў прыязджаць.

Апошнім часам я пазнаёмілася з другім хлопцам з Саколкі, і ён запрапанаваў мне жаніцца са мной. Не ведаю, што рабіць, ці аб гэтым прызнацца яму, ці не, ці проста выйсці за яго замуж. Парай, Сэрцайка!

**Святлана** з Сакольшчыны

Дарагая **Святлана.**

Шкада, што я не ведаю, колькі ты маеш год. Але пішаш, што чытаеш «Ніву», а асабліва заўсёды «Сардэчныя тайны». А калі чытаеш, дык напэўна не раз чытала аб дзяўчатах, якія знаходзяцца ў такім становішчы, як ты зараз. Чытала і парады. А як бачу, нічога табе гэтае чытанне не дало. А і многа дыскутавалася на гэтыя іменна тэмы. І ты дапусцілася да таго, каб знайсціся ў такім становішчы, як і іншыя дзяўчаты, якія прасілі мяне парады далёка перад табой. А дыскусія была шырокая. Не ўмела ўшанаваць сябе. Бачу, што і надалей паступаеш так. Ты ж павінна зусім не знаёміцца з іншымі хлопцамі, павінна неяк выйсці са свайго цяжкога становішча. Перад усім аб гэтым павінна ты як найхутчэй сказаць сваім бацькам і разам з імі як са старэйшымі і дасведчанымі людзьмі вырашыць справу. Але не маеш ніякага права спатыкацца з іншымі хлопцамі, гэта табе справу можа папсуць і то на ўсё жыццё. Справу гэту ўладзіць можна толькі з бацькамі і хлопцам, які ў тым вінаваты. А ўсё ж такі сорам, каб не ўмець маладой дзяўчыне ўшанаваць сябе. Патрэбнае толькі разумнае вырашэнне.

**Сэрцайка**

Ніна! («Ніва» ад 7.I.1965 г.). Просім прыслаць нам дакладны адрас, у справе якой вы пісалі. Маем вам ліст. Просім прыслаць як найхутчэй.

**Сэрцайка**




**Праграма**
**на 2 — 7.III.1965 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Leśny patrol" (radz.), 2—4. „Zalotnik" (franc.), 5—7.

**Кляшчэлі**

„Zdradziecki strzał" (radz.), 2—4. „Kodyn" (rumuński), 5—6.

**Дубіны**

„Zdobywcy nieba" (radz.), 6—7.

**Нараў**

„Ostrożnie babciu" (radz.), 3—7.

**Нараўка**

„Rozwodów nie będzie" (polski), 3—7.

**Чыжы**

„Klub kawalerów" (polski), 3—7.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Przeżyłem swoją śmierć" (czeski), 3—7.

**Бранск**

„Ach te dzieci" (radz.), 2—3. „Ludwiku do rondla" (jugosł.), 4—5. „Między brzegami" (polski), 6—7.

**Орля**

„Złodziej z Bagdadu" (angl.), 3—7.

**Райск**

„Dziki pies Dingo" (radz.), 10—14.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Handlarze opium" (chiński), 2—4. „Upał" (polski), 5—7.
„Upał" (polski), 5—7.

**Міхалова**

„Generał" (USA), 2—4. „Drugi brzeg" (polski), 5—7.

**Супрасль**

„Biały Kanion" (USA), 2—4. „Między brzegami" (polski), 5—7.

**Чорна Беластоцкая**

„Życie nie jest łatwe" (włoski), 2—3. „Złoty człowiek" (angl.), 4—5. „Nieznany" (polski), 6—7.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**

„Transport z raju" (czeski), 2—4. „Zalotnik" (franc.), 5—7.

**Нурэц**

„Generał" (USA), 2—4. „Skradzione plany" (angl.), 5—7.

**Мілейчыцы**

„Ulica Nadmorska" (radz.), 2—4. „Zdradziecki strzał" (radziecki), 5—7.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Krzyżacy" (polski), 2—7.

**Сухаволя**

„Generał della Rovere" (włoski), 2—4. „Spotkanie ze szpiegiem" (polski), 5—7.

**Шудзялава**

„Biedna ulica" (bułg.), 3—7.

**Янаў**

„W pogoni za meteorytem" (czeski), 2—7.

**Сідра**

„O czymś innym" (czeski), 2—4. „Teresa Desgueraux" (franc.), 5—7.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**

„Sędzia dla nieletnich" (NRF), 6—7.

**Новы Двор**

„Koledzy" (polski), 6—7.

**Ружанысток**

„Wszyscy do domu" (włoski), 2—3. „Dzwony na pasterkę" (czeski), 4—5. „Dwója z wychowania" (polski), 6—7.

